Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

14 чэрвеня 1997 года
СУБОТА
№ 26
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 444 руб.
Цана ў розніцу – 1000 руб.

ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКАГА РАБОТНІКА. СА СВЯТАМ, МЕДЫКІ!

*ІВАЦЭВІЧЫ. Стаматалагічная паліклініка размяшчаецца ў добрым будынку, прыём хворых вядуць вопытныя кадры. Узначальвае калектыў Тамара Іванаўна Вакуліч – найбольш вопытны медработнік. Праз многія гады напружанай працы пранясла Тамара Іванаўна шчырую спагаду да кожнага пацыента, успрымае яго боль нібы свой.*

*Загадчыца дастойна нясе груз службовых клопатаў. Умела будуе свае адносіны з падначаленымі, робіць усё для таго, каб яны абслугоўвалі людзей якасна. Пра сваю загадчыцу цёпла адгукаюцца стаматолагі. Цэняць яе за высокі прафесіяналізм кліенты. Добразычлівасць, якая пануе ва ўзаемаадносінах персаналу, станоўча ўплывае на ўсёй мікраклімат паліклінікі.*



*НА ЗДЫМКУ: загадчыца Івацэвіцкай стаматалагічнай паліклінікі Т. І. Вакуліч.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### "Акно ў Еўропу" з нашай драўніны

БЯРОЗА. Як ні дзіўна, але цэх па перапрацоўцы драўніны Белаазёрскага лясніцтва з месяца ў месяц нарошчвае тэмпы вытворчасці. Цяпер ён прапануе спажыўцам дошкі абрэзныя і неабрэзныя, тапарышчы, вагонку, іншыя піламатэрыялы. Заказы на падобныя вырабы цэх выконвае для тутэйшых спажыўцоў, для партнёраў з Польшчы, Германіі, Галандыі, Францыі і Бельгіі. Штомесячна адпраўляецца ў Еўропу ў сярэднім да 140 кубічных метраў піламатэрыялаў на суму 300 мільёнаў рублёў.

На фоне масавага беспрацоўя і крызісу ў эканоміцы гэты астравок стабільнасці ўспрымаецца, дальбог, як іншароднае цела.

### Свирепый друг свирепого человека

ИВАЦЕВИЧИ. Видимо, постоянно растущее раздражение и злость людей передаются животным. Иначе отчего бы, например, с каждым годом увеличивалось количество укусов людей собаками. Только в Ивацевичском районе в прошлом году Шарики и Рексы 162 раза набрасывались на граждан, оставив на их телах кровавые отметины.

Восьмилетнего Стасика К. из райцентра укусила бродячая собака, когда он её прогонял со своего двора. Мальчика поместили в больницу. Слава Богу, ничего страшного не случилось, но семь прививок против бешенства он принял, неделю валялся в больнице. Там же очутились 22-летняя девушка из Яглевичей и 12-летний подстаринский мальчик, тоже ставшие жертвами свирепых псов – бродячих и соседских. В этом году пострадали от собачьих зубов уже 62 человека.

Вопрос о бродячих собаках обсуждался в прошлом году на сессии райсовета, но после авторитетных дебатов их не поубавилось. Лохматые бомжи размножаются быстрее, чем выполняются исторические решения Ивацевичского райсовета.

### Лепш пазней, чым ніколі

БАРАНАВІЧЫ. Да спісу помнікаў, якія ахоўвае дзяржава, нарэшце далучылі аптэку па вул. Тэльмана (каля аўтавакзала); пажарную часць, што побач; былы Дом піянераў, дзе цяперака знаходзіцца каледж,ды радыёстанцыю, якая месціцца ў старым парку.

Колькі да гэтага часу ўжо знішчана старажытных забудоў, нікому невядома.

### Войска вучыцца, міністр ацэньвае

БАРАНАВІЧЫ. На Абуз-Лясноўскім палігоне прайшлі манеўры мабільных сілаў Беларусі. Падчас вучэнняў вайсковыя часці адпрацавалі свае дзеянні ў абароне з выкарыстаннем дэсанта, які быў закінуты ў тыл наступаючага праціўніка.

За два гады свайго існавання беларускія мабільныя сілы ўпершыню правялі такія буйныя манеўры. За імі назіраў міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў. Па словах кіраўніка ваеннага ведамства, беларускія Узброеныя Сілы сёння – „кіруемыя і боегатоўныя".

### Мы з Расіяй – заадно. Сала – польскае ямо...

ІВАЦЭВІЧЫ. Кожную нядзелю на рынку ля аўтавакзала прыватны гандляр прадае з прычэпа легкавога аўтамабіля польскае сала таўшчынёю не больш за два пальцы, здор і вэнджаную шчакавіну. Якасць тавару вядомая: як сказаў адзін востраслоў, сала тонкае, ды жаваць яго можна доўга. Затое цэны – значна ніжэйшыя за тыя, якія існуюць на сала наша, беларускае і ўкраінскае, якое прадаецца тут жа, на рынку.

І кожную нядзелю вакол прычэпа збіраецца велізарны натоўп – чарга пакупнікоў. Парадак пры водпуску замежнага тавару захоўваецца строгі, як і ў ранейшыя, эсэсэраўскія часы. Давялося быць сведкам таго, як худзенькая сталая жанчына прасіла ў натоўпу дазволу купіць без чаргі грамаў 300 вэнджанай шчакавіны для сына-студэнта, які павінен быў вось-вось ад'ехаць ад івацэвічаў на электрычцы. Не дазволілі. Матывы адмовы былі важкімі:

– Усе спяшаемся.
– Усім ехаць трэба.

А мясцовы самадзейны паэт, які таксама прагнуў польскага сала, тут жа склаў частушку:

Мы з Расіяй – заадно,
Сала – польскае ямо.
Нават грама без чаргі
Узяць нікому не дамо!

Не вельмі паэтычна, затое дакладна!



● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### РЭФОРМА АДУКАЦЫІ: ПЕРШЫЯ НЕПАПУЛЯРНЫЯ КРОКІ

За школьныя падручнікі цяпер давядзецца плаціць бацькам. Гэтым непапулярным крокам пакуль што і абмяжоўваецца рэформа сістэмы адукацыі. Пытанне аб пераходзе на пяцідзённы тыдзень навучання ў школах яшчэ не вырашанае.

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў, з 1 верасня бацькі будуць аплочваць чвэрць кошту падручнікаў. Паводле папярэдніх разлікаў, гэта складзе ад 150 тысяч для малодшых класаў да 250 тысяч для старшакласнікаў. Ад аплаты будуць вызваленыя толькі бацькі-інваліды. Не будуць плаціць за падручнікі і сем'і з даходам менш чым тры мінімальныя заробкі на чалавека, а сем'і з трыма і больш дзецьмі заплацяць толькі палову ад вызначанага памеру аплаты.

Увядзенне аплаты за падручнікі чыноўнікі тлумачаць тым, што ў бюджэце не стае грошай, каб на ранейшым узроўні фінансаваць сістэму адукацыі, і ўрад вырашыў перанесці частку фінансавай нагрузкі за навучанне дзяцей на іхніх бацькоў.

### ЛЁС НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ – У НАШЫХ РУКАХ

Беларускі дзіцячы фонд, Дзяржтэлерадыёкампанія, рэдакцыі газет „Звязда" і „Рэспубліка" зваротам да ўсіх нераўнадушных і шчырых людзей Беларусі распачалі дабрачынную акцыю „Дапаможам дзецям". Праходзіць яна будзе з 1 чэрвеня па 1 верасня гэтага года. Асноўная мэта акцыі – сабраць сродкі на аздараўленне і лячэнне сацыяльна неабароненых і хворых беларускіх дзяцей.

### ІНФЛЯЦЫЮ НЕ СТРЫМАЛІ

Як паведамляецца ў падрыхтаваным Міністэрствам эканомікі дакладзе па выніках работы народнай гаспадаркі за першы квартал 1997 года, не ўдалося вытрымаць намечаныя на гэты перыяд тэмпы росту інфляцыі. Сярэднямесячны яе прырост склаў 7,3% замест 6,5, якія прадугледжваліся прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця. Па-ранейшаму расце колькасць стратных прадпрыемстваў. Цяпер іх налічваецца 2667. Зніжаецца рэнтабельнасць большасці галін эканомікі, павялічваюцца неплацяжы, захоўваецца запазычанасць па заработнай плаце.

### ЯК НАС АБДЗІРАЕ РАСІЯ, ЯКАЯ ШМАТ ГАВОРЫЦЬ ПРА ДРУЖБУ

Выступаючы на рэспубліканскім семінары па кормавытворчасці, які адбыўся ў Капыльскім раёне, міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Лявонаў прывёў красамоўныя факты. Ён, у прыватнасці, сказаў, што расіяне згодны прадаставіць нам камбайны „Дон" пад крэдыт у 20 працэнтаў гадавых у валюце. На думку нашага міністра, гэта сапраўдная абдзіралаўка. На Захадзе можна набыць падобныя машыны пад 7–8 працэнтаў гадавых. „Вось вам і дружба", – усхвалявана гаварыў міністр.

### БЕЛАРУСКІ ДЫПЛАМАТ ПАПРАСІЎ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫТУЛКУ

Як паведамілі французскія сродкі масавай інфармацыі, былы другі сакратар беларускага пасольства ў Парыжы Уладзімір Палупанаў папрасіў палітычнага прытулку ў Францыі. У інтэрв'ю беларускі дыпламат сказаў, што „апошнім штуршком для просьбы палітычнага прытулку стала падпісанне дамовы аб аб'яднанні Беларусі і Расіі. Я выбраў свабоду і хачу адкрыта працягваць сваю дзейнасць у Францыі".

### АБАКРАЛІ ЛАТВІЙСКАГА КОНСУЛА

У Віцебску абрабавана кватэра консула Латвіі Арманда Крузэ. Злодзеі забраліся ў яго дом у той час, калі дыпламат з жонкай паехаў на адпачынак за горад. Вярнуўшыся дахаты, гаспадары заўважылі, што з кватэры зніклі два тэлевізары, каштоўнае футра і іншая вопратка, фамільнае золата і срэбра. Следства па факце абрабавання вядзе абласное ўпраўленне ўнутраных спраў.

(Па старонках рэспубліканскіх газет).

● КРИМИНАЛ

# ПРЕСТУПНАЯ ГРУППА ПОПЫТАЛАСЬ НЕЗАКОННО ВЫЗВОЛИТЬ РЕЦИДИВИСТА ИЗ КОЛОНИИ СТРОГОГО РЕЖИМА

Письмо, отправленное в Ивацевичскую колонию из Верховного суда, несло добрую весть для отбывавшего здесь немалый срок Владимира Горячко. В письме значилось, что коллегия по уголовным делам Верховного суда рассмотрела протест заместителя Генерального прокурора республики по приговору, вынесенному осужденному народным судом Фрунзенского района Минска, и сочла назначенную ему меру наказания чрезмерно суровой. Вместо отмерянных Владимиру семи лет „строгой зоны" срок был сокращен до четырех лет. Так что оставалось заключенному Горячко с учетом уже отбытого времени до желанной свободы два года. Документ, отпечатанный на официальном бланке, заверенный гербовой печатью и подписью одного из членов Верховного суда, был оформлен по всем правилам. Администрации колонии оставалось принять его к исполнению и обрадовать заключенного приятным известием.

Так оно, пожалуй бы, и случилось, не обрати экспедитор Константин Шелейко, доставлявший в колонию почту, внимание на некоторые странности полученного пакета. Штемпель с датой отправления на конверте был трехмесячной давности. Насторожило и другое – письмо попросил передать в цензорское отделение, куда обычно поступала вся почтовая корреспонденция, недавно вышедший на пенсию начальник спецчасти колонии Валерий Котик. Забыл, наверное, вовремя отдать, нашел объяснение его просьбе Шелейко. Но отнести странный пакет по назначению все же не решился – отдал его заместителю начальника колонии по оперативно-режимной работе Александру Николайчику.

Конверт с январским штемпелем вскрыли. Текст письма подозрений вроде бы не вызывал, однако решили подстраховаться – направили полученные бумаги в столицу для подтверждения.

В Верховном суде, несмотря на гербовую печать, своего „авторства" документа не признали. В колонию сообщили, что никакого определения в Ивацевичи суд не посылал – надлежит не раз судимому преступнику Горячко отбывать законный срок полностью. А материалы направили в Прокуратуру Беларуси для проверки. Документы, судя по всему, были сфальсифицированы. Но где и кем? Это предстояло выяснить.

...Выход на влиятельного „человека в погонах" для друга по отсидке нашел Валерий Мазур. У самого Мазура срок скоро заканчивался – надеялся, встав на „путь исправления", через несколько месяцев получить условно-досрочное освобождение. А Владимиру Горячко свобода светила лишь в 2001 году. Однажды, обсуждая эту безотрадную перспективу, Валерий посочувствовал приятелю и предложил: если тот за ценой не постоит – через год получит персональную „амнистию" и будет на воле. Тысяч девять „зеленых" – верная отмычка от желанной свободы, надо только договориться с нужным „человеком в погонах".

Знакомству с ним Мазуру „помог" приговор суда, по которому он несколько лет назад оказался в Ивацевичской колонии строгого режима, где начальником спецчасти был майор внутренней службы Валерий Котик. Снова попав в эту колонию, Мазур считал его „хорошим знакомым". К нему-то вскоре и повел приятеля. Однако первый визит закончился неудачей. Мазур сделал новую попытку – пришел к Котику один, не таясь, сказал – „благодарность" за „амнистию" девять тысяч „баксов" сразу после того, как Горячко окажется на свободе. И майор согласился.

Определение Верховного суда, согласно которому осужденному Горячко следовало снизить наказание, и сопроводительное письмо Котик сочинил по имевшемуся образцу. Но без печати, удостоверявшей подлинность документа, он был всего лишь пустой бумажкой.

Мазур взял хлопоты на себя, озадачил навещавшего его в колонии шурина Сергея Кругликова – нужен оттиск подлинной гербовой печати Верховного суда, с которого можно изготовить подделку.

Дальнейшие события происходили в Дзержинске. Сергей, вернувшись домой, принялся за дело. Вспомнил о знакомых, которые могли быть полезны. У одного из них – главного инженера ремстройуправления Ярослава Щуки, кажется, был кто-то в Минске. Кругликов, не посвящая его в суть дела, попросил оказать услугу. Щука, бывая в столице, случалось, наведывался за консультациями к знакомому по прежней работе в Дзержинске судье Верховного суда Анатолию Руткевичу. В один из приездов Ярослав попросил отметить командировку, тот просьбу выполнил – на командировочном удостоверении стояла гербовая печать. Вскоре желанный оттиск оказался у Кругликова. На последнем этапе в преступный сговор был втянут художник Дзержинского коопромторга Сергей Гайдук. По просьбе Кругликова умелец изготовил поддельную печать, которую от настоящей во время следствия отличила лишь экспертиза.

Вскоре Кругликов приехал в колонию и передал печать Котику. Остальное было делом техники. Сфальсифицировав документы Верховного суда, майор позвал Горячко. Владимир своей рукой поставил на письме дату, вписал собственную фамилию, расписался за одного из судей и стал ждать, когда „амнистия" вступит в силу...

Вскоре в Ивацевичах появился начальник следственного отдела по особо важным делам республиканской прокуратуры Валерий Кудин. И вот – финал этой истории.

Минский областной суд воздал должное каждому из участников затевавшейся „амнистии". Валерий Котик приговорен к 6 годам лишения свободы с отбытием в ИТК усиленного режима и конфискацией имущества. Владимир Горячко осужден на 8 лет строгого режима, а Валерий Мазур – на 4 года 10 месяцев. Сергей Кругликов получил 2 года лишения свободы условно с обязательным привлечением к труду. Сергею Гайдуку предстоит „исправляться" 2 года по месту работы, отдавая 20 процентов заработанного в доход государства. В отношении Ярослава Щуки и Анатолия Руткевича уголовное дело прекращено за отсутствием в их действиях состава преступления, поскольку об истинных намерениях обвиняемых они не знали. Тем не менее последнему пришлось к должности работника высшей судебной инстанции добавить – „бывший".

**Зинаида КИСИНА, „СБ".**

## ТВОРЧАЕ ЗГУРТАВАННЕ



*„СВЯТЛІЦА". Менавіта такую назву атрымала творчае згуртаванне, якое аб'яднала мастакоў, літаратараў і бардаў г. Баранавічы і раёна. Утворанае ў жніўні мінулага года, сёлета яно было зарэгістравана і набыло статус мясцовага грамадскага аб'яднання. Кіраўніком „Святліцы" аднадушна абраны паэт Алесь Бакач.*

*Гэтыя творы – спроба даць магчымасць пазнаёміцца чытачам „Газеты для вас" з творчасцю сяброў „Святліцы", чые дзверы гасцінна адчынены для ўсіх, натхнёных мастацтвам.*

*Алесь БАКАЧ*

### СВЯТЛІЦА

*Святліца – светлае слова. Світанкавым спакоем і лагодаю вее ад яго.*

***Святліца** – сонечным святлом заліты пакой, дзе ўтульна, святочна і светла на душы любому. Дзе гэты любы становіцца любым.*

***Святліца** далонямі сцен, падлогі і столі затуляе ад слоты і сцюжы, і ахалоджвае ў спёку.*

***Святліца** – святая, святніца, бо мае святы кут „са святымі лікамі", свечкаю і святкуе свае святы.*

*Стол – яе прастол, за якім сілкуюцца лустаю хлеба стомленыя целам і наталяюць чытаннем духоўны голад. І тады **святліца** – асветніца, якая ўсяму вучыць – ад ссівелых Ведаў да найноўшых навукаў.*

*Гасціям **святліца** – частаўніца, спяўніца. Але часам у ёй пачынаюць „высвятляць адносіны" сілаю і тады яна – сварніца, светніцма. Ды **святліца** – суцешніца, бо зноў сунімае слёзы і смутак, спачувае і ўкладае спаць. Іначы **святліца** – санніца. Ёй сняцца сны іншасвету. А навокал – светлячкі ды Млечны Шлях.*

***Святліца** – сватніца, любніца закаханым, якія не могуць налюбавацца і нацешыцца адно адным. Яна асвячае сям'ю, люляе немаўлятак, выспельваючы сталасць, хоча, каб сям'я налічвала сем „я" і ў кожнай **святліцы** ўсміхаліся „светлые лица".*

*Вокнамі вачэй углядаецца яна ў далягляды вялікага свету, дзе ўсе мы шукаем шчасця, святасць, асвету, суцяшэнне, свята – сваю **святліцу**.*

*Людміла СЯМАШКА*

### ЧАРГА

*Зжаўцелае цела*
*цягнецца да шклянкі,*
*што на покуце пад*
*лустай хлеба.*
*За ім чарга...*

*Алена ЧАПЛІНСКАЯ*

### ПАННЫ

*У густым,*
*нібы дым,*
*цёмным небе начным*
*зіхатнулі шаўкамі*
*зорнымі*
*побач з месяцам залатым*
*Панны ясныя між*
*сузор'ямі.*

*І як сцяг*
*па вятрах*
*валасоў Млечны Шлях.*
*Ды ад зор не чакай*
*сардэчнасці –*
*адбіваецца ў іх вачах*
*таямніца халоднай*
*вечнасці.*

*Ян ЗБАЖЫНА*

### У СКЛЕПЕ

**Пыл не здзьмухвай.**
**Прабач і пакінь.**
**М. ПАЎЛІКОЎСКА-ЯСНАЖЭЎСКА.**

*Вільготным пылам*
*саркафагаў*
*ля эпітафій бачу час*
*І ў лаўрах –*
*марную развагу*

*выяваў – профілем і ў фас.*
*Камень шыхтамі сваю*
*вернасць*
*няхістка захаваў руцэ,*
*што й зараз мур*
*так шчыльна тчэ.*
*Зайздрошчу тым,*
*чый крок паверхня*
*неўласна больш*
*адлюстраваць –*
*на павуцінне ўтаймаваць*
*павук паспеў іх след.*
*З начніцы*
*хімера невымоўнасць*
*п'е...*
*Плыву ў суцэльнай*
*таямніцы –*
*апошні сведка – сам сабе.*

*Алёна ЦВІРКО*

### КАХАЮ...

**Полюбив,**
**мы умираем.**
**Л. АЗАРОВА.**

*Я кахаю і гэта – шчасце,*
*я кахаю і гэта – гора.*
*Шчасце – бачыць твой*
*шчыры позірк,*
*шчасце – прагна імкнуцца*
*да вуснаў,*
*шчасце – ведаць,*
*што я – кахаю.*
*Гора – несці ў сэрцы*
*твой погляд,*
*гора – вуснаў не чуць*
*пяшчоты,*
*гора – ведаць,*
*што ты – далёка...*

● СЛУЖБА 01

# ГАРЫМ, БРАТКІ, ГАРЫМ

На працягу пяці месяцаў гэтага года на тэрыторыі раёна адбылося 48 пажараў. Нанесеныя імі страты склалі звыш 1 млрд. 374 млн. рублёў. На пажарах загінулі тры чалавекі (у іх ліку 4-хгадовая дзяўчынка). Адзін чалавек атрымаў тэрмічныя траўмы. Ім аказаўся жыхар в. Рудня А. В. Кулін. Пацярпеў ён з-за сваёй абыякавасці, калі спрабаваў распаліць кацёл-кормазапарнік, але адсырэўшыя дровы ніяк не разгараліся. Выкарыстаў крыху дызельнага паліва. З тапліўніка катла-кормазапарніка шуганула моцнае полымя, на небараку загарэлася вопратка. З атрыманымі апёкамі ІІ-й ступені рук і тулава А. Кулін трапіў у бальніцу. Праўда, па дапамогу да медыкаў ён звярнуўся не адразу, а калі апечаныя раны пачалі гнаіцца.

10 пажараў зарэгістравана ў маі. Асноўная прычына іх узнікнення – людская неасцярожнасць, абыякавасць пры карыстанні агнём. Тыя ж катлы-кормазапарнікі двойчы становіліся прычынай пажараў, ад іх гарэлі гаспадарчыя пабудовы на падворках А. І. Разанавай (Даманава) і М. Р. Ляшчук з Івацэвіч.

А вось гаспадарчы хлеў, што належыць жыхарам в. Дабрынёва В. А. Малышэвіч і А. І. Шабану, падпалілі дзеці. У буйны пажар вылілася свавольства з агнём 5-гадовага Дзяніса і 4-гадовай Вольгі Канацкіх. Безумоўна, гэтага пажару, як і многіх іншых, магло і не быць, калі б дарослыя людзі строга і пастаянна выконвалі патрабаванні правілаў пажарнай бяспекі самі і няспынна вучылі гэтаму дзяцей.

Вось хіба толькі пажар у гаспадарцы М. І. Мігно з Аброва складана было б папярэдзіць, бо ўзнік ён ад разраду маланкі ў час моцнай навальніцы. Згарэла 4 стагі сена агульнай вагой 8 тон. Але гэта – разгул стыхіі. Ва ўсіх астатніх пажараў ёсць вінаўнікі.

**В. МОЛАШ,**
**ст. супрацоўнік**
**ЦНППБ АВПС**
**Івацэвіцкага раёна.**



**КУПОН для бясплатнай прыватнай аб'явы**

Бясплатна ў парадку чаргі змяшчаюцца аб'явы недзелавога зместу аб'ёмам да 15 слоў, напісаныя друкаванымі літарамі. Аб'явы без чаргі і дзелавога характару – платныя. У купоне змяшчаецца адна прапанова. **Ананімныя і без адраса купоны не разглядаюцца.**

Тэкст аб'явы: ____________________

____________________

____________________

____________________

**Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у суботу.**
**Фармат 420x300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.**
**Падпісана да друку 12 чэрвеня ў 14.00.**

Заснавальнікі: У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1.000 экз.*
*Заказ № 1398.*